*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ **9(65)** ◈ 4 сакавіка 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

ЭКАНАМІЧНЫ СПАД У НАШАЙ РЭСПУБЛІЦЫ, ЯКАЯ ДА НЯДАЎНЯГА ЧАСУ ЛІЧЫЛАСЯ ЎЗОРНАЙ, РЭЗКА ЎЗРОС. У СТУДЗЕНІ, ЯК ЗАЯВІЎ В. КЕБІЧ НА СУСТРЭЧЫ З МІЛІЦЫЯЙ, ЁН СКЛАЎ 18 ПРАЦЭНТАЎ. ТАКОГА Ў НАС ЯШЧЭ НЕ БЫЛО.

*ПРЫНЯТА ПАСТАНОВА САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ АБ ДАДАТКОВЫХ МЕРАХ ПА САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА Ў СУВЯЗІ З ЛІБЕРАЛІЗАЦЫЯЙ ЦЭН. Ёю прадугледжана павысіць мінімальную зарплату да 550 рублёў у месяц, перагледзець памеры стыпендый, дапамог, пенсій і іншыя меры. Тут жа адзначана таксама, што ўводзяцца свабодныя цэны на продаж бараніны, мяса птушкі, лікёра-гарэлачных вырабаў, а цэны на гарэлку павялічваюцца на 7 рублёў за паўлітра. Ці не з тым, каб абараніць людзей ад шкодных у некаторых адносінах прадуктаў?*

У КІЕВЕ БЕЗ УДЗЕЛУ РАСІІ ПРАДСТАЎНІКІ ДЗЯРЖАЎ, ЯКІЯ ЎВАХОДЗІЛІ РАНЕЙ У САЮЗ, ДАМОВІЛІСЯ ВЫВЕСЦІ ЗНЕШЭКАНОМБАНК СССР З-ПАД ЮРЫСДЫКЦЫІ «СТАРЭЙШАГА БРАТА» І ЗАРЭГІСТРАВАЦЬ ЯГО Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКУ БЕЛАРУСІ. Расія палічыла, што ў такой нарадзе па знешняму доўгу «не было патрэбы»...

*У РЭСПУБЛІЦЫ СТВАРАЕЦЦА НОВАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ — ПАРТЫЯ НАРОДНАЙ ЗГОДЫ. Яе бліжэйшая задача — знайсці шляхі выхаду з крызісу, аб'яднаць усе сілы грамадства для сумеснай працы. Як гэта зрабіць? Заключыць «пакт згоды» паміж усімі палітычнымі рухамі. З чаго пачаць? Пераадолець памылкі, дапушчаныя ў правядзенні рэформ. Якія прапануюцца меры? Гарантаваць пражытачны мінімум усім сацыяльным групам, перагледзець падаткі і інш. МЯРКУЕЦЦА, ШТО ГЭТА БУДЗЕ АДНА З САМЫХ УПЛЫВОВЫХ У РЭСПУБЛІЦЫ ПАРТЫЙ.*

РАСІЯ І УКРАІНА ДАМОВІЛІСЯ АБ УВЯДЗЕННІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ГРАШОВЫХ ВАЛЮТ. МЫ Ж, ПЭЎНА, ЯК ЗАЎСЕДЫ, ЗРОБІМ ГЭТА АПОШНІМІ.

## Калі ж народ стане гаспадаром свайго жыцця?

*Стар. 4*

## *Са святам, мілыя жанчыны, дай Бог вам шчасця і святла*



Маргарыта Кандзіранда — мадэльер-канструктар брэсцкага атэлье «Купалінка». Яна стварае прыгожае моднае адзенне для жанчын. Брэстаўчанкі ўдзячны ёй за выкананыя заказы. Ёсць у дзяўчыны і захапленне. Яна з задавальненнем іграе ў спектаклях народнага тэатра брэсцкага Палаца прафсаюзаў.

Фота Эдуарда КАБЯКА. (БЕЛТА).



*Ізноў вясна абуджана каханнем*
*І ўсмешкамі асветлена Жанчын.*
*З букетам руж прыходжу*
*на спатканне,*
*Не заўважаю над зямлёй хмурын.*

*І, як заўжды, спазняецца Жанчына,*
*Хоць і заўжды прыходзіць, як святло,*
*Жыць без якога сёння немагчыма,*
*І без якога свята не было б.*

*І я гляджу самотна ды з надзеяй*
*У далячынь. Там, дзе жыве Яна.*
*І сонца там, здаецца, лепей грэе,*
*І толькі там святочнасць і вясна.*

*Як вечнасць цэлая, ідуць хвіліны,*
*І божы дзень няміла і чужы*
*Без той адзінай, як жыццё, Жанчыны.*
*Як пуста без Жанчыны на душы!*

*І вось Яна. Наўкол знікаюць цені*
*І радасна наўкол вятры шумяць...*
*Як прад Багіняй, стаўшы на калені,*
*Ёй буду доўга рукі цалаваць.*

## «Калі ў тваёй уласнай хаце цябе збіраюцца караць за роднае слова, значыць, нешта не так у самой сістэме жыцця».

*Стар. 2*

## А Ў НАС ПА-РАНЕЙШАМУ МАНАПОЛІЯ...

*Стар. 3, 4*

*Рэха*

## Парламент збіраецца на сесію...

Праз тыдзень на чарговую сесію збіраецца беларускі парламент. Многія звязваюць з ёй вялікія надзеі. Адсюль і напал у спрэчках за ўвагу дэпутатаў да тых ці іншых праблем. Ужо на Прэзідыуме Вярхоўнага Савета гучалі прапановы: выказаць недавер ураду, распрацаваць парадак адклікання дэпутатаў, выбараў старшынь мясцовых Саветаў. Аднак яны не знайшлі падтрымкі.

Яшчэ больш прапаноў паступае ад працоўных калектываў. Найбольш сур'ёзна заявілі аб сваіх праблемах настаўнікі. Выйшаў спецыяльны нумар-улётка «Настаўніцкай газеты», прысвечаны гэтым праблемам. Настаўнікі заявілі: у дзень адкрыцця сесіі яны збяруцца каля Дома ўрада для размовы з дэпутатамі. Атрымалі яны ўжо і папярэдні адказ: «Калі не будзеце патрабаваць, то, магчыма, мы праз год-другі нешта для вас і зробім. А будзеце ставіць ультыматумы — наогул нічога не атрымаеце». Гэта словы старшыні Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі парламента Р. Унучкі.

Дэпутаты Пінскага гарсавета запатрабавалі наогул правесці нечарговую сесію Вярхоўнага Савета. Імі названы вострыя праблемы эканомікі, грамадскага жыцця, што патрабуюць неадкладнага вырашэння — аб іх мы пісалі раней. Разгараюцца спрэчкі вакол рэферэндуму аб роспуску парламента і выбарах яго новага саставу. Усё грамчэй аб сваіх надзённых патрэбах заяўляюць рабочыя, сяляне. А вось у Міністэрстве ўнутраных спраў, дзе нядаўна пабываў В. Кебіч, поўнае ўзаемаразуменне з уладамі. Аб гэтым сведчыць сам ход сустрэчы.

Так што парламентарыяў чакае напружаная работа.

А. С.

# З рэдакцыйнай пошты

## Ёсць у Светлагорску універсітэт

Другі год існуе ў Светлагорску народны універсітэт беларускай гісторыі і культуры. Створаны ён мясцовай арганізацыяй ТБМ імя Ф. Скарыны. За гэты час тут выступілі навукоўцы з Менска і Гомеля. Запомніліся лекцыі Д. Д. Паўлаўца «Гісторыя беларускай мовы. Моўная палітыка ад старажытнасці да нашых дзён», В. А. Ляшчынскай «Лексічнае багацце беларускай мовы», З. А. Рудакоўскай «Марфалагічныя асаблівасці беларускай мовы і тыповыя памылкі», Л. В. Трэпет «Лёс помнікаў мінуўшчыны»...

Вестку пра тое, што чарговую лекцыю на занятках нашага універсітэта беларускай гісторыі і культуры прачытае супрацоўнік часопіса «Спадчына», выкладчык Беларускага гуманітарнага ліцэя, сакратар Управы БНФ Вінцук Вячорка, у Светлагорску была ўспрынята па-рознаму. Тым не менш, паслухаць госця сабраліся не толькі слухачы універсітэта.

Рэдка бывае так, каб лекцыя спадабалася ўсім слухачам, незалежна ад іх грамадскай арыентацыі. Але ж менавіта гэта здарылася на лекцыі Вінцука Вячоркі «Лёс аблічча беларускай мовы» і «Тапаніміка Беларусі».

**І. КАТЛЯРОЎ.**
**г. Светлагорск.**

НА ЗДЫМКАХ: перад слухачамі Светлагорскага народнага універсітэта беларускай гісторыі і культуры выступае Вінцук Вячорка.

**Фота В. СТРЫБУКА.**

## Дзе вывучаць беларускую гісторыю

Пішу з пэўным адчаем. Паступаючы ў Гомельскі універсітэт, думаў, буду займацца гісторыяй роднай Беларусі. Але дзе там! Жахліва мала гадзін на сваю гісторыю і шмат на markdown рознае іншае. Што ўвогуле можна казаць, калі ў нас працягваюць крытыкаваць «беларускіх буржуазных нацыяналістаў»! Дык дзе мне на Беларусі знайсці факультэт менавіта беларускай гісторыі ды этнаграфіі? Трэба, не адмаўляю, быць гістарычна развітым чалавекам, але пры сучасных грамадскіх варунках на Беларусі трэба рыхтаваць спецыялістаў перш за ўсё з грунтоўным веданнем беларускай гісторыі і этнаграфіі, а не наадварот.

**Зміцер САСНОЎСКІ.**
**г. Гомель.**

## НІКОГА НЕ ВАРТА ЦЯГНУЦЬ НА КРЫЖ

*Нататкі з Менскай гарадской канферэнцыі*

Менскую гарадскую канферэнцыю Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны сабрала трывога многіх сяброў суполкі, што яе дзейнасць звялася на нішто. А якраз з менскай арганізацыі Таварыства ўсё і пачыналася...

У Менскую гарадскую раду напярэдадні канферэнцыі ўваходзіла 82 чалавекі: пісьменнікі, гісторыкі, мовазнаўцы... На вялікі жаль, не ўсе яны прыйшлі на канферэнцыю. Не было нават кіраўнікоў некаторых раённых рад.

Адкрыў канферэнцыю старшыня выканаўчай дырэкцыі Менскай гарадской рады Віктар Асіпенка. Неадназначна сустрэла зала яго выступленне, відаць, угледзеўшы ў ім спробу апраўдаць бяздзейнасць гарадской арганізацыі. Але выканаўчая дырэкцыя якраз і працавала. Пра што і расказаў Віктар Асіпенка. Было распрацавана палажэнне аб гаспадарчай дзейнасці, праведзена праца па падрыхтоўцы беларусізацыі справаводства ў гарвыканкаме — перакладзены на беларускую мову ўзоры дакументаў агульным аб'ёмам да 500 старонак машынапісу... Закуплена абсталяванне для беларускамоўных класаў некалькіх менскіх школ. Ад імя Менскай гарадской рады ТБМ запрошаны высокакваліфікаваныя ўрачы з замежжа. Вядуцца канкрэтныя перамовы пра лячэнне дзяцей у Заходняй Еўропе.

Аднак не паспеў Віктар Асіпенка закончыць сваё выступленне, як на яго абрынуліся гнеўныя воклічы: няма чаго, маўляў, апраўдвацца, бо замест таго, каб адраджаць беларускую мову ў сталіцы, гарадская рада плённа наладжвала масты з Клійлендам і Беластокам (?).

Слушна выступіў старшыня Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч:

— Усе мы вінаватыя ў сітуацыі, якая склалася. І з таго, што мы сёння будзем шукаць вінаватых, цягнуць некага на крыж, карысці вялікай не будзе. Усё ж у некаторых раённых арганізацыях ішла някеп-

(Заканчэнне на с. 3).

*Але!*

## Як судзілі беларускую мову

Беспрэцэдэнтная акцыя чынілася ў Гродне 13 студзеня. У гарадскім судзе адбыўся працэс, на якім адказчыкам выступала дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь, дакладней, мясцовыя выканаўчыя ўлады, якія ў адпаведнасці з нашымі законамі ўвялі нарэшце ў школы беларускую мову навучання.

Трэба прызнаць, што ў гэтым навучальным годзе Гродзенскі гарвыканкам (старшыня Домаш С. М., намеснік Мілінкевіч А. У., загадчык гарана Дудзін А. Р.) праявіў дзяржаўную прынцыповасць і паслядоўнасць і ажыццявіў уласнае рашэнне, прынятае яшчэ ў 1990 годзе, пра перавод на беларускую мову навучання першых класаў гарадскіх школ (6 з іх пакідаліся рускамоўнымі). Тады рашэнне гэтае было сарвана, і не без віны органаў народнай адукацыі. Толькі ў адной школе (№ 2) усе першыя класы адкрыліся як беларускія.

Цяпер жа, на працягу летніх канікулаў была праведзена немалая падрыхтоўчая работа. Адбыліся сустрэчы з бацькамі, з якімі гутарылі супрацоўнікі гарана, кіраўнікі школ, народныя дэпутаты, сябры ТБМ. Не ўсе гутаркі былі простымі і лёгкімі. Мне давялося ўдзельнічаць у шматлікіх сходах, дзе дыялог-спрэчка бываў вельмі напружаным і доўгім. Урэшце людзям усё ж даводзілі, што жывём мы ўжо ў самастойнай дзяржаве, законы якой трэба шанаваць, што варта дбаць ужо зараз пра будучыню сённяшніх першакласнікаў, якім у гэтай дзяржаве жыць, быць яе грамадзянамі, яе сынамі і дочкамі. Паступова дасягалася разуменне таго, што школа наша не можа не быць беларускаю. Звычайна напрыканцы сходу шмат хто з бацькоў дапамагаў ужо нам уласнымі аргументамі ці проста патрыятычнымі эмоцыямі.

Такім чынам, цяперашні навучальны год 25 школ горада (першыя класы ў іх) сустрэлі як беларускія. Засталося 7 рускамоўных. І хаця адна школа (№ 10) не выканала патрабаванняў афіцыйнага рашэння, а ў згаданых 25 цішком пакінулі ўсё ж 4 рускамоўныя класы, можна не сумнявацца, што праз год гэтыя прыкрыя недаробкі будуць выпраўлены, і становішча з аднаўленнем нацыянальнага школьніцтва ў Гродне можна лічыць на сённяшні дзень неблагім. Ды і ў такіх райцэнтрах вобласці, як Навагрудак, Ваўкавыск, Масты, Ашмяны, Вялікая Бераставіца, усе школы перавялі сёлета свае першыя класы на беларускую мову, пакінуўшы пакуль адзін ці два рускамоўныя класы на горад.

Але вернемся да судовай справы. Пачынаўся канфлікт на сходзе ў школе № 11, дзе група бацькоў (пераважна гэта ахвяры палітычна арганізаванай міграцыі) вельмі ўжо заўзята пратэставала супраць навучання па-беларуску і патрабавала стварэння рускіх класаў. Але прадстаўнікі гарвыканкама і гарана не прызналі іх аргументы за слушныя, і ўсе першыя класы ў гэтай школе адкрыліся як беларускія. Аднак група непрымірымых на гэтым не спынілася, тым больш, што мела і свайго ідэолага ў асобе народнага дэпутата гарсавета Рудэнкі В. Д., які, між іншым, лічыўся дагэтуль дэмакратам і на выбарах падтрымліваўся агульнадэмакратычным блокам «Саветы-90». Згаданы Рудэнка пайшоў па інстанцыях і, не знайшоўшы разумення сваёй антыбеларускай пазіцыі, пастукаўся ў пракуратуру. І вось тут знайшоў падтрымку. Абласны пракурор Цярэшчанка Л. П. апратэставаў рашэнне гарвыканкама наконт 11-ай школы на той падставе, што ў мікрараёне гэтай школы жыве, быццам бы, кампактна насельніцтва рускай нацыянальнасці. Гарвыканкам пратэст адхіліў, і тады пракурор перадаў справу ў суд.

Перад пачаткам працэсу ля будынка суда сабраўся натоўп пікетчыкаў, якія выступілі ў абарону роднага слова, яго дзяржаўнага статусу. Перапала і Рудэнку, якога прыраўнялі да сумна вядомага Жырыноўскага. На судзе высветлілася, што ніякай кампактнасці рускіх у мікрараёне 11-ай школы няма (як няма яе нідзе ў Гродне), што працэнт рускага насельніцтва тут нават ніжэй, чым па горадзе ў цэлым. І прадстаўніку пракуратуры даводзілася вышукваць у Законе аб мовах параграфы з неадназначным зместам, каб як-небудзь выпрацаваць абвінавачанне. Не было сур'ёзных аргументаў і ў прадстаўніцы «групы» (яна налічвала к гэтаму часу чалавек дзесяць), што спрабавала пераканаць суд, скажам, такімі «грунтоўнымі» тэзісамі: «Никогда не было и нет белорусского языка, есть единый русский язык в Советском Союзе». Вядома, у такой атмасферы перапоўненая зала яўна хвалявалася, і суддзя вымушаны быў зноў і зноў заклікаць да парадку, рабіць папярэджанні. Нават рашэнне суда пастанавіў абвясціць на наступны дзень, відаць, дзеля спакою публікі. Суд не знайшоў адступленняў ад закона ў дзеяннях гарадской улады (яе годна прадстаўляў на гэтым нялёгкім працэсе Мілінкевіч А. У., у нядаўнім мінулым дацэнт кафедры фізікі Гродзенскага універсітэта).

І ўсё ж радасці не было. Наадварот. Калі ў тваёй уласнай хаце цябе збіраюцца караць за роднае слова, значыць, нешта не так у самой сістэме жыцця. Відаць, сістэма дагэтуль хварэе на камунізм, і трэба яе лячыць вельмі радыкальнымі сродкамі. Тут ужо не да смеху. Тым больш, што кропка на гэтым працэсе на пастаўлена. «Група» пагражае судом вышэйшай інстанцыі. І пакуль мы не станем рэальнымі гаспадарамі свайго дома, мы не застрахаваныя ад такіх кур'ёзных і ганебных працэсаў.

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ,**
**старшыня Гродзенскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны.**

*Меркаванні*

*Уладзімір ДАМАШЭВІЧ*

# ЦМОКА СПУСЦІЛІ З ЛАНЦУГА НАЎМЫСНА

***Калі пачалася перабудова, многія ўзрадаваліся. Але многіх яна і занепакоіла: каб жа ўсё засталося так, як было! Перабудавацца, але не мяняць падмурка. Даволі таго, што перафарбуем сцены, дах — і хопіць.***

ШМАТ хто, асабліва наверсе, спалохаліся перабудовы як рэальнай пагрозы іх сытага і спакойнага дабрабыту.

Асабліва, калі Гарбачоў сказаў пра тыя 18 ці 20 мільёнаў чыноўнікаў з кіраўнічага апарату, што падпісвалі паперы па дыяганалі і рабілі разносы па селектарнай сувязі. А на іх утрыманне ў год ідзе 40 мільярдаў тых яшчэ рублёў на адну зарплату. Гэта значыць, што яны маюць гадавую зарплату, роўную 20 тысячам (а чатыры гады назад спецыяліст высокай кваліфікацыі на вытворчасці меў каля 2 тысяч).

Вось яны, гэтыя 20 мільёнаў, і спалохаліся перабудовы. Яны і перакрылі ёй кісларод. Перабудова пачалася зверху — зверху яе і задушылі.

Магчыма, каб Гарбачоў асмеліўся паставіць на месца гэтыя 20 мільёнаў начальнікаў, якія не прынеслі ў народную казну ні рубля прыбытку, а толькі бралі з яе і давалі браць сваім прыліпалам, магчыма, што перабудова мела б зусім іншы эфект і лепшыя вынікі.

Гарбачоў або не захацеў, або проста пабаяўся чапаць гэтую вялікую апаратную сілу. Яна не страціла сваіх пазіцый і да сённяшняга дня. Яна і сёння, толькі злёгку змяніўшы фасад ды падфарбаваўшыся пад дэмакратаў, кіруе намі.

І аднак жа толькі дзякуючы перабудове наша Рэспубліка Беларусь атрымала сваю незалежнасць, як і іншыя рэспублікі былога СССР. Трэба радавацца. Ды нешта няма сапраўднай радасці ў людзей, бо яны бачаць, што суверэнізацыя ніяк не можа чамусьці акрыяць, што ўсё ідзе як мокрае гарыць. Вельмі і вельмі ілюзорная наша незалежнасць. Мы толькі гуляем у яе, а ўсё застаецца так, як і было, нават яшчэ горш. Амаль не працуюць прынятыя ўжо законы, шмат прагрэсіўных і патрэбных законаў не прымаецца зусім з-за нізкай нацыянальнай свядомасці нашых заканатворцаў.

Духоўны і фізічны Чарнобыль на нашай зямлі працягваецца. Калі ўсё нацыянальнае нашы беларускія камуністы секлі пад корань больш за пяцьдзесят гадоў і дабіліся ў гэтым вялікіх поспехаў, то сёння, пры незалежнасці, яны гэтую справу давяршаюць, толькі ўжо рукамі тых, хто стаў лічыць сябе дэмакратам, а ў душы застаўся цвёрдакаменным ленінцам — сталінцам. Душа ў такіх ніяк не ляжыць да беларушчыны. Іх узгадавала імперыя, і іншага жыцця яны не ўяўляюць.

Пераход да рынку, «ліберальныя» цэны, канкурэнцыя? А адкуль яно ўсё ўзялося? Гэта пакуль каламутны вір, у які нас піхнулі нашы кіраўнікі і цяпер глядзяць, калі мы запросім паратунку ў кампартыйнай наменклатуры: прыходзьце і валодайце намі, як калісьці пры Ільічах і Кузьмічах. А ў каго ёсць плаўсродкі — мільёны, адабраныя ў нашага народа? У іх жа, партакратаў. Гэтыя мільёны іх выратуюць у любым выпадку, іх вір дзікага рынку не праглыне, яны сабе абсталявалі аазісы дабрабыту.

А што простым людзям? Ісці на дно — дно жыцця? Сёння «адпушчаны», а дакладней — па камандзе зверху дзесяцікратна павышаны цэны. Цмока спусцілі з ланцуга. Шмат ахвяр ён наробіць, асабліва сярод слабых, неабароненых, шматдзетных, інвалідаў, пенсіянераў, якіх у нас не адзін мільён.

Гэта гульня ў рынак, але гульня злавесная. Рынак бывае тады, калі таваравытворцы стараюцца дагадзіць пакупніку і змагаюцца адзін з другім — хто дзешавей прадасць. А ў нас жа паранейшаму манаполія. Сродкамі вытворчасці валодае кіруючы эшалон. Той самы. І плодзіць толькі спекулянтаў.

Цяпер такое пытанне: ужо больш за месяц, як цэны спушчаны з ланцуга, ужо мільёны і мільёны пацяклі ў казну. А дзе яны? І каму яны зрабілі палёгку? Якую яму мы імі замошчваем? Якія палацы на іх будуць пабудаваны і каму? Безліч пытанняў — і ні аднаго адказу.

Але, аказваецца, нашаму кіраўніцтву мала. Яшчэ раз трэба павысіць цану на масла, трэба павысіць на мяса. Чаму толькі павышаць і зараз загадам зверху?

І такім спосабам нехта думае дасягнуць прагрэсу? Вельмі сумняваюся.

У каламутны вір нажывы кінута наша культура. Яна голая і бездапаможная, у яе няма ніякіх плаўсродкаў, бо адзін працэнт бюджэту на практыцы амаль тое самае, што і нічога.

Як дамоклаў меч, навісла пагроза закрыцця шмат якіх беларускіх выданняў — перыядычных, цэлых выдавецтваў.

Бо дарагая стала папера, узраслі цэны на паліграфію, а тыражы беларускіх кніжак малыя, да таго ж яшчэ не карыстаюцца павышаным попытам. Дзе ўжо нам!..

Вельмі зручны і хітры спосаб адным ударам пакончыць з тым беларускім, што яшчэ цудам уцалела і не было знішчана да канца сталінскімі сокаламі.

Дык дзе незалежная Рэспубліка Беларусь, шаноўныя дэпутаты Вярхоўнага Савета і члены Урада,

*(Заканчэнне на с. 4).*

## Дзе і што?

*Пермскія сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што з 15 лютага мясцовая фабрыка Дзяржзнаку пачала друкаванне расійскіх грошай, якія могуць быць выпушчаны ў абарот ужо ў сакавіку — красавіку. Дырэктар гэтай фабрыкі адмовіўся пацвердзіць ці абвергнуць гэтае паведамленне.*

* * *

**Спецыяльнай пастановай Дзяржаўны мытны дэпартамент Эстоніі істотна абмежаваў вываз харчу за межы рэспублікі. Цяпер пасажыр можа ўзяць з сабой у дарогу 1 бохан хлеба, 1 кг макаронаў, 0,5 кг кандытарскіх вырабаў, 0,2 кг цукру, 0,4 кг якога-небудзь тлушчу, 10 штук яек, 3 літры кансерваванай садавіны або гародніны, 1 кг рыбы, 2 бляшанкі рыбных кансерваў, 1 кг мяса або вырабаў з яго, 0,5 кг малочных прадуктаў. Тым, хто не жыве ў рэспубліцы, забараняецца вывозіць што б там ні было.**

*З-за нястачы манет як сродку аплаты праезду ў метро Маскоўскі манетны двор пачаў выпуск жэтонаў. Яны падобны на звычайны «пятак», але больш важаць. Разам з тым адпадае неабходнасць у пераробцы аўтаматаў. Калі кошт праезду ў метрапалітэне будзе і далей павышацца, тыя жэтоны будуць проста прадавацца даражэй.*

***Падрыхтаваў Андрэй ВАШКЕВІЧ. «Выбранецкая інфармацыйная служба».***

# НІКОГА НЕ ВАРТА ЦЯГНУЦЬ НА КРЫЖ

***(Заканчэнне. Пачатак на с. 2).***

ская работа. Не перабольшваючы добрае, давайце падзелімся вартым увагі вопытам... Як паўплываць на агульную моўную сітуацыю ў карысць беларускага слова? Чаму беларусізацыя ўсяго нашага жыцця ідзе такімі марудными тэмпамі? Як паўплываць на службовых, чыноўных людзей, безуважных да мовы? Што мы можам?..

І вось гэтае гілевічаўскае «што мы можам?» прывяло канферэнцыю да спакойнай, канструктыўнай гаворкі, якую працягнуў старшыня клуба «Спадчына» Анатоль Белы. На яго думку, толькі тады зварухнецца з месца працэс беларусізацыі, калі зменіцца ўрад, Вярхоўны Савет Рэспублікі.

Старшыня камісіі па народнай адукацыі Менгарсавета Вольга Кузьміч звярнула ўвагу прысутных на моўную сітуацыю ў школе. На яе думку, дзеля пашырэння ўжытку роднай мовы неабходна наладзіць кантроль за выкананнем Закона аб мовах.

У сваім выступленні галоўны сакратар Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны Яўген Цумараў падсумаваў прычыны, што прывялі гарадскую арганізацыю да бяздзейнасці. У прыватнасці, адзначыў празмерную колькасць сяброў гарадской рады (82), і таксама тое, што між імі не была канкрэтна размеркавана праца. Адсутнічала сувязь з пярвічнымі суполкамі ТБМ. А між іншым, на месцах якраз рабілася і робіцца канкрэтная справа. Прыкладам можа служыць дзейнасць суполкі на аўтамабільным заводзе. Пра яе работу падрабязна расказаў намеснік старшыні прафкама Белаўтамаза Мікалай Лавіцкі.

Больш за шэсцьдзесят аўтазаводскіх пішучых машынак пераведзена на беларускую мову; на дзвюх мовах пачала выходзіць «шматтыражка» «Автозаводец». А радыё таксама вядзе перадачы на роднай мове. Ёсць надзея, што і сакратары-машыністкі з цягам часу загавораць па-беларуску: тыя з іх, хто друкуе па-беларуску, атрымліваюць грашовую даплату. Друкарні прадпрыемства забаронена выпускаць рускамоўныя інструкцыі і іншыя паперы для службовага карыстання. З 28 садкоў завода ў 12 працуюць гурткі па вывучэнню роднай мовы.

Крыху здзівіла слухачоў выступленне тэлежурналіста Даната Яханюка. Ён, у прыватнасці, расказаў пра складаную моўную сітуацыю на Беларускім тэлебачанні, якое абавязана служыць справе беларусізацыі. Трывогай, клопатам за лёс роднай мовы былі прасякнуты выступленні Яўгена Гучка, Анатоля Астапенкі, Алеся Лозкі. Апошні ўзначальваў да нядаўняга часу акадэмічную раду ТБМ. Спадар Лозка павёў размову пра ролю маладога пакалення ў адраджэнні мовы. У гэтым плане дзейсным сродкам, на яго думку, можа стаць беларускі скаўцкі рух, які, на жаль, амаль не знаходзіць падтрымкі ў рэспубліцы і існуе на аматарскіх пачатках. Затое нядаўна створаны «прарасійскі» «Союз скаутов Белоруссии» з першых крокаў знайшоў і матэрыяльную і маральную падтрымку як у колішняга камсамола, так і ў дзяржаўных інстанцыях. Рускамоўнаму саюзу даволі лёгка «праціснуцца» са сваімі ідэямі і ў друк. Прычынай усяму гэтаму, відаць, служыць наша палітычная неразборлівасць, адсутнасць вострага ўсведамлення таго, хто мы — ці беларусамі маем права звацца?..

Канферэнцыя закончылася выбарамі гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны. У новы склад рады ўвайшло ўсяго толькі дваццаць пяць чалавек, уключаючы і старшынь сталічных раённых рад.

Старшынёй новага складу гарадской рады ТБМ стаў Максім Савіцкі. Намеснікамі старшыні Яўген Лаўрэль і Надзея Сармант.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Калі ж пачнём паважаць сябе?

**Кнігі Міколы Ермаловіча, Анатоля Цітова, Міхася Ткачова, Георгія Штыхава, Язэпа Юхо, Кастуся Тарасава і многіх іншых выдаюцца мізэрнымі накладамі, хоць і раскупляюцца імгненна, за адзін дзень. Так, «Памяць пра легенды» Тарасава мае наклад 12 тысяч паасобнікаў, «Гарадская' геральдыка Беларусі» Цітова — 10 тысяч, «Па слядах аднаго міфа» Ермаловіча — 11 тысяч, «Людзі і замкі» Ткачова — 6 тысяч. Нельга набыць «Статут Вялікага княства Літоўскага» — наклад 10 тысяч паасобнікаў, «Этнаграфію Беларусі» — 20 тысяч паасобнікаў, «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй К. Крапівы — наклад 20 тысяч паасобнікаў.**

**На будучае таксама паляпшэння не прадбачыцца.**

**«Невядомая вайна» Генадзя Сагановіча павінна выйсці ў выдавецтве «Беларусь» накладам 10 тысяч паасобнікаў, а «Беларуская мова» пад рэдакцыяй Я. Адамовіча ў «Вышэйшай школе» — накладам 12 тысяч паасобнікаў, затое «Русские пословицы и поговорки с соответствиями в английском языке» маюць наклад 30 тысяч.**

**Цяпер вось думаю: дзе знайсці беларускую азбуку і буквар для сваёй дачкі? Няўжо ў незалежнай Беларусі нашы дзеці зноў вымушаны пачынаць вучыцца чытаць на расійскай мове? Чым вытлумачыць такое становішча з беларускай кнігай у нашай «незалежнай Рэспубліцы Беларусь» — сілай інерцыі ці палітыкай нашага дэнацыяналізаванага посткамуністычнага кіраўніцтва? Дык калі ж мы навучымся паважаць самі сябе?**

**Ігар ВАШКЕВІЧ,**
**інжынер.**
**г. Менск.**

*Меркаванні*

# Уладзімір ДАМАШЭВІЧ: ЦМОКА СПУСЦІЛІ З ЛАНЦУГА НАЎМЫСНА

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 3).*

і што яна можа? Мне яна ўяўляецца беднаю удавою, якая аддае пад нож апошнюю карову, што паіла малаком яе дзяцей, толькі па той прычыне, што сена для гэтай каровы перакупілі — ці перахапілі — спрытныя дзялкі.

Аказваецца, вельмі складана і няпроста быць незалежнымі. Раней за нас думалі ў Крамлі, давалі каштоўныя ўказанні, калі трэба было — падганялі палкаю. Усё неяк ішло, хоць і праз пень-калоду.

А сёння чамусьці народ не можа пракарміць сам сябе, не можа пракарміць сваю інтэлігенцыю. Ён толькі ў стане яшчэ пракарміць свой урад. На гэты, што павысіў у дзесяць разоў цэны на прадукты і тавары, зробленыя народам і народам аплачаныя, грошай яшчэ набярэцца. Вось і ўсё!

А без культуры абыходзіліся і абыдземся. Асабліва без свае беларускае. Яна не купленая, дорага не каштуе... А калі хоча выжыць, то хай змяніць сваё нацыянальнае аблічча на заходнееўрапейскія шаблоны.

У што тады ператворыцца Рэспубліка Беларусь? Як без нацыянальнай культуры, літаратуры, тэатра яна зможа захаваць сваё аблічча, адметнасць? Урэшце, без мовы, без школы, бо закон аб дзяржаўнасці мовы застаўся толькі на паперы, а ў жыцці яго няма, усё застаецца, як было пяць, дзесяць і пяцьдзесят гадоў назад. Мяняюцца толькі шыльды, і то не ўсюды. Чыноўнікі не змяніліся. Яны нават гавораць не па-беларуску. Як пагарджалі адкрыта беларусам, так і пагарджаюць.

Вось яны і вынеслі прысуд беларускай культуры — апошні, і ці не смяротны. Мы сёння бачым, як ён праводзіцца на практыцы, і нічога не можам змяніць: мы па-ранейшаму дома не гаспадары.

Мы надта рана паверылі ўраду і паспадзяваліся на яго. Я думаю, што мяне падтрымаюць мае сябры-пісьменнікі, калі я скажу так:

Шаноўныя нашы Кіраўнікі Урада Рэспублікі Беларусь!

Мы заклікаем Вас, мы заклінаем Вас — прыняць тэрміновыя захады, каб выратаваць беларускую культуру, літаратуру ў прыватнасці, узяць пад сваю дзяржаўную апеку справу выдання літаратуры на роднай мове, каб не распаліся беларускія выдавецтвы, каб не закрыліся беларускія часопісы і газеты, каб беларускія пісьменнікі не страцілі з такою цяжкасцю пабудаваны на сродкі Літфонда дом творчасці «Іслач», якому сёння пагражае банкруцтва ад шалёнай дарагоўлі.

Калі Вы справіцеся з гэтаю высокаю місіяй, Вы ўвойдзеце ў гісторыю Беларусі як першы ўрад незалежнай Рэспублікі Беларусь, які не прадаў яе інтарэсаў, а па-дзяржаўнаму мудра паставіўся да яе будучыні.

Калі ж не... Можа быць такое? Калі ж не, грамада мае нават маральнае права выказаць Вам недавер.

Мы ведаем, што Вам нялёгка, але сродкі на культуру ў кожнай дзяржавы павінны быць, таксама як і на хлеб і на самае неабходнае, інакш яна не дзяржава, а фікцыя. Сродкі, да ўсяго, трэба правільна размяркоўваць — гэта адно з галоўных правіл цывілізаванага свету.

Нехта з мудрых сказаў: народ, які не можа пракарміць сваю інтэлігенцыю, пазбаўлены будучыні. А я дадам: урад, які не можа знайсці сродкі на тое, каб спыніць гібельны працэс заняпаду нацыянальнай культуры, таксама не мае будучыні.

## дзе і што?

### Прысяга пад двума сцягамі

**Вайсковы гарнізон Луганска прыняў прысягу на вернасць народу Украіны. Праўда, не абышлося без кур'ёзаў. На пляцы, дзе гэта адбывалася, луналі два сцягі: былой савецкай рэспублікі і жоўта-блакітны. Гімн таксама выконваўся стары. Музыканты растлумачылі, што не паспелі вывучыць новы.**

### Ваявода — прадстаўнік прэзідэнта

**Праект рэарганізацыі мясцовых органаў кіравання запрапанавала рабочая група, створаная рашэннем Львоўскай абласной рады народных дэпутатаў. Першы крок у гэтым напрамку: правядзенне ў сакавіку прамых выбараў кіраўнікоў сельскіх, пасялковых, гарадскіх і абласных рад. Лічыцца, што найвышэйшай службовай асобай павінен быць ваявода, які адначасова будзе прадстаўніком Прэзідэнта і кіраўніком дзяржаўнай адміністрацыі ў вобласці. Яму падпарадкоўваецца прафесійная палата народных дэпутатаў.**

### Цягнікі не вінаватыя

**Здаецца, яшчэ ніколі сумчане (Украіна) так не адчувалі блізкасць Масквы, як сёння. У выхадныя дні харчовыя дэсанты са сталіцы былога Саюза высаджваюцца ў Сумах і спусташаюць усё, што бачаць на сваім шляху. Пры гэтым, зразумела, цэны на рынку падвышаюцца ў два, тры, а то і ў чатыры разы.**

**У адным з лістоў да Вярхоўнай Рады Украіны сумчане просяць адмяніць цягнік Сумы — Масква, пагражаючы ў адваротным выпадку заблакіраваць рух маскоўскага цягніка.**

*WIS*

*Беларускае Адраджэнне ў святле друку*

## Вяртанне «блудных» сыноў...

Рэспубліканская газета «Звязда» сёлета ўвяла новую рубрыку «Беларушчына». У тэматычных выпусках пад гэтай рубрыкай друкуюцца матэрыялы пра беларускую гісторыю, культуру, мову, абмяркоўваюцца актуальныя праблемы нацыянальнага Адраджэння. Тут ужо выступілі многія чытачы са сваімі прапановамі і меркаваннямі, якія змешчаны ў падраздзелах «Моўныя густы», «Спеўнік», «Рыхтуем урокі разам» і іншыя. Акрамя таго, газета рэгулярна друкуе ў тэматычных выпусках пад рубрыкай «Лёс роднай мовы», «Нам засталася спадчына», а таксама асобныя матэрыялы пра беларускую культуру.

Так, нядаўна тут быў змешчаны артыкул доктара філасофскіх навук Уладзіміра Конана «Беларускае нацыянальнае Адраджэнне», дзе даецца аналіз гэтага паняцця і гісторыя развіцця нацыянальнай свядомасці беларусаў. Аўтар адзначае, што нацыянальнае Адраджэнне звычайна пачынаецца з абвяшчэння роднай мовы найвялікшай каштоўнасцю і святыняй народа. Гаворыцца ў артыкуле і аб тых умовах, пры якіх культура нацыі не можа паспяхова развівацца — маецца на ўвазе ці недастатковы іншанацыянальны ўплыў, ці рэпрэсіўныя меры іншанацыянальнай дзяржавы, ці моўныя «сяброўскія абдымкі», як было з беларусамі ў Расіі і ў СССР. Гарманічнае ўзаемадзеянне такіх культур, як беларуская і руская або беларуская і польская,— робіць аўтар артыкула вывад,— магчыма толькі пры захаванні паміж імі пэўнай дыстанцыі. Гэта пацвярджае сама гісторыя.

«Адраджэнскія» рысы характэрны ўжо для старабеларускай культуры XI — XII стагоддзяў. У наступныя 300 гадоў самабытны ўсходнеславянскі тып сярэдневяковай культуры завяршыў свой цыкл развіцця. Паміж гуманістычным Адраджэннем XVI стагоддзя і нацыянальным Адраджэннем другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя быў амаль двухсотгадовы перыяд «застою», калі беларускую нацыю не хацелі прызнаваць не толькі Расія і Польшча, але і заходнееўрапейскія дзяржавы. Парадокс нашай культуры ў тым,— піша У. Конан,— што «бескультурнасць» карэнных беларусаў, пераважна сялян і рамеснікаў, якраз дазволіла захаваць ядро культуры, якое стала пазней асновай Адраджэння. Пад прэс паланізацыі і русіфікацыі трапілі толькі верхнія слаі грамадства.

Сёння ў рэспубліцы сутыкнуліся два працэсы: масавай русіфікацыі на ніжэйшых узроўнях і рэнацыяналізацыі — вяртання «блудных» сыноў (і дачок) да Бацькаўшчыны — на вышэйшых элітарных узроўнях. Распад вялікай былой унітарнай дзяржавы рыхтуе глебу да новага глабальнага Адраджэння нацыі.

А. С.



*Нашы інтэрв'ю*

# Анатоль БЕЛЫ: СЁННЯ БЕЗ ПАЛІТЫКІ НЕ АБЫСЦІСЯ

*Сем гадоў назад, 20 лютага 1985 года, па вуліцы Мендзялеева, 3 распачаў працу клуб «Спадчына», які аб'яднаў тагачасных «іншадумцаў», людзей, што сціпла працавалі на адраджэнне мовы і культуры беларускага народа.*

Бескарыслівым дарам гэтых людзей клубу сталі творы беларускага мастацтва, у асноўным жывапісныя палотны. З адкрыцця выставы і распачалася дзейнасць «Спадчыны».

Наш карэспандэнт спаткаўся са старшынёй клуба Анатолем Белым і пагутарыў з ім.

**— Спадар Анатоль, раскажыце пра ўзнікненне клуба «Спадчына».**

— Напачатку было шмат цяганіны з памяшканнем, пакуль улады не выдзелілі для клуба два пакойчыкі ў сутарэнні. На першую выставу з'ехалася шмат гасцей — асабістых сяброў, прадстаўнікоў менскай інтэлігенцыі. Прысутнічаў і народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Некаторы час выстава працавала для жыхароў мікраёна, у якім жыву. Паступова культурная работа клуба пашырылася. Па прыкладу «Беларускай хаткі», у якой даўней збіралася беларуская інтэлігенцыя паспяваць народныя песні, пачыталі свае творы, абмяркоўваць балючыя нацыянальныя праблемы, пачалі працаваць і сябры «Спадчыны». Запамінальнай стала сустрэча з Міколам Ермаловічам, на якую сабралася больш за дзвесце чалавек. У той час праўдзівае слова было палітыкай, таму дзейнасць клуба стала «папярок горла» менскаму гаркаму партыі: нам забаранілі збірацца, а каштоўны збор твораў мастацтва звезлі ў бамбасховішча па вуліцы Уральскай, 9. Але мы па-ранейшаму збіраліся ў школах, у домакіраўніцтвах. Праз нейкі час пад націскам беларускай інтэлігенцыі гарадскія ўлады «злітаваліся» і далі клубу памяшканне па вуліцы Адаеўскага. Апошнім часам мы збіраемся па вуліцы Кузьмы Чорнага ў бібліятэцы.

**— Хто з вядомых людзей выступаў у клубе «Спадчына»?**

— Выступалі амаль усе вядомыя дзеячы беларускай культуры, якія жывуць у Менску. Мы вядзём дзённік пасяджэнняў, у якім рэгіструем мерапрыемствы клуба. У мінулым годзе ў «Спадчыне» адбылася вечарына прадстаўнікоў розных веравызнанняў.

**— Дзе вы і сябры клуба былі 19—21 жніўня 1991 года?**

— Якраз летам мінулага года я быў у Амерыцы і 19 жніўня вылятаў у Маскву. Я ўжо ведаў, што адбыўся дзяржаўны пераварот. Калі я прыляцеў у Канаду, мяне паклікалі да тэлефона. Званілі з Клīўленда дачка і спадар Белямук. Яны прасілі мяне не вяртацца дамоў, а заставацца ў Амерыцы. Я запытаўся ў іх: «А ці ёсць войскі на баку Ельцына?» Яны мне адказалі, што Ельцына падтрымліваюць танкі. І я неяк адразу паверыў, што народ пераможа камуністычную хунту. Зразумела, цяпер пра ўсе тыя падзеі лёгка гаварыць, бо няма ні кампартыі, ні Саюза.

20 жніўня я быў у Маскве. Хадзіў на барыкады. Радаваўся, што сярод людзей, якія абаранялі Белы дом, былі і беларусы.

Сябры ж «Спадчыны» ў тыя дні прыйшлі на пляц перад Домам урада, падтрымалі дэмакратычныя сілы Беларусі.

**— Ваша дачка жыве ў Клīўлендзе і рэдагуе часопіс «Полацак». Як там, у Амерыцы, жывецца беларусам?**

— У Клīўлендзе існуе даволі вялікая калонія беларусаў. Вядомы яе прадстаўнік — Міхась Белямук, які актыўна ўдзельнічае ў культурным і грамадскім жыцці эміграцыі, выдае часопіс «Полацак». Беларусам у Амерыцы жывецца лепей, чым многім нам на роднай зямлі.

**— Што вы можаце сказаць пра незалежнасць Беларусі?**

— Незалежнасць — вялікая заваёва беларускага народа. Але пакуль што наша незалежнасць шмат у чым папяровая. Пройдзе шмат гадоў, пакуль наш народ стане сапраўдным гаспадаром свайго жыцця.

**— Клуб «Спадчына» — палітычная арганізацыя ці асветніцкая?**

— Сёння без палітыкі не абысціся. Само жыццё прымушае быць палітыкам. «Спадчына» дае трыбуну тым, хто змагаецца з былымі партакратамі, дамагаецца ўсталявання ў жыцці новага дэмакратычнага ладу.

**— Якой вы бачыце будучыню «Спадчыны»?**

— Думаю, што «Спадчына» і надалей будзе працаваць на карысць нацыянальнага адраджэння. Мы плануем сабраць сродкі на помнік Кастусю Каліноўскаму, стварыць музей беларускай графікі, музей беларускага медаля.

**Распытваў Віктар ШНІП.**

НА ЗДЫМКУ: 20 лютага 1985 года. Менск, Мендзялеева, 3. Адкрыццё клуба «Спадчына». Злева направа: Анатоль Белы, Мікола Купава, Віктар Шматаў.

## Кароткі слоўнік эканомікі

АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА. Цяпер, калі мы трохі ўяўляем сабе, што такое АКЦЫЯ, паспрабуем коратка растлумачыць, як могуць ва ўмовах рынку дзейнічаць тыя, хто вырашыў такім чынам нешта зарабіць, ды і наогул не згубіць укладзеных у гэтую справу ўласных грошай. Але напачатку давядзецца растлумачыць яшчэ адно слова — КАРПАРАЦЫЯ. Паходзіць яно ад познналацінскага і азначала напачатку проста «аб'яднанне». Затым набыло юрыдычнае значэнне — сукупнасць асоб, якія аб'ядналіся дзеля дасягнення пэўнай мэты. У Злучаных Штатах Амерыкі так называюцца акцыянерныя кампаніі. Карпарацыі маюць на мэце атрымаць для сваіх членаў найбольшы прыбытак, для чаго імкнуцца рознымі сродкамі абараніць прывілеі ўдзельнікаў. Дык вось, карпарацыі, як правіла, цэнтралізуюць грашовыя сродкі шляхам продажу акцый. Так узнікае АТ. Існуюць закрытыя АТ, акцыі якіх размяркоўваюцца толькі сярод сваіх жа заснавальнікаў, і адкрытыя. Акцыі апошніх свабодна прадаюцца і купляюцца. Саўладальнікам аб'яднанай маёмасці адкрытага акцыянернага таварыства можа стаць любы, хто купіў хоць адну акцыю. На агульным сходзе акцыянераў кожны валодае правам голасу прапарцыянальна колькасці сваіх акцый. АТ — гэта юрыдычная асоба.

Цяпер аб прыбытку, які атрымлівае АТ. Частка яго ідзе на ўплату падаткаў, расшырэнне вытворчасці, папаўненне рэзерваў, выплату прэмій і, нарэшце.— на размеркаванне ў якасці дывідэндаў паміж акцыянерамі ў прапорцыі да сумы акцый кожнага з іх. У выпадку банкруцтва рызыка члена таварыства не перавышае сумы ягонага ўласнага ўкладу ў акцыянерны капітал.

Трэба дадаць, што сродкі АТ могуць складацца не толькі ад продажу акцый (уласнага капіталу) і прымножанага прыбытку, але і за кошт крэдытаў банка (пазыковыя сродкі) і выпуску аблігацый. Утрымальнік 51 працэнта акцый з'яўляецца ўладальнікам кантрольнага пакета акцый і можа дыктаваць сваю волю ўсяму акцыянернаму таварыству.

Каб завяршыць размову пра АТ, неабходна растлумачыць яшчэ два тэрміны — ДЫВІДЭНД (у слоўніку Ластоўскага — дывідэнт) і АБЛІГАЦЫЯ. ДЫВІДЭНД-В. Ластоўскі ўказвае на лацінскае паходжанне слова,— тое, што належыць падзяліць. Дзеляць частку, як мы казалі, чыстага прыбытку акцыянернага таварыства. Размяркоўваецца ў адпаведнасці з колькасцю акцый. Памер дывідэнду па кожнай акцыі залежыць не толькі ад велічыні прыбытку, але і ад разнавіднасці акцый. АБЛІГАЦЫЯ зноў жа мае паходжанне лацінскае і азначала напачатку проста «абавязацельства». У наш час — каштоўная папера, якая дае (а хутчэй — павінна б даваць) яе трымальніку даход у выглядзе выйгрышу або працэнтаў ад сваёй намінальнай вартасці.

АД РЭДАКЦЫІ. Ліст ваяскоўага настаўніка Міхаіла Мікалаевіча Кулакоўскага да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь спадара Станіслава Станіслававіча Шушкевіча трапіў у нашу рэдакцыю таму, што яго аўтар закрануў некаторыя надзённыя праблемы адраджэння нашай мовы. Адна з іх — ужыванне ў гаворцы і ў друку, на радыё барбарызмаў, русізмаў, паланізмаў. А наша ж мова настолькі багатая, што можна знайсці нават некалькі адпаведнікаў кожнаму прыблуду! Слушна папракае вясковы настаўнік нас, журналістаў, за тое, што мы «прыбіваемся» да якога-небудзь аднаго слова і не шукаем іншых.

Але, пэўна ж, выпадкова трапіла ў пералік слова «спадар», якое, як даказаў нядаўна ў «ЛіМе» І. Крамко, мае багатую гісторыю. Ды калі б і не было ў спадара такога радаводу, то гэтае ёмкае і прыгожае слова аніяк не зашкодзіла б беларускай мове.

## Два словы пра лёс нашай мовы

Радасна і прыемна чуць прамовы на роднай беларускай мове на сесіях нашага парламента, тым больш, што і яго Старшыня паказвае ў гэтым вельмі добры прыклад. Лічу гэта надзейным практычным крокам к ажыццяўленню Закона аб мовах у рэспубліцы!

Але, на жаль, існуе яшчэ нямала перашкод таму, каб наша мова стала сапраўды нацыянальнай і сапраўды дзяржаўнай. Аб адной з такіх перашкод я і хацеў бы ў двух, як кажуць, словах давесці да Вашага ведама. Я маю на ўвазе засмечанасць і заштампаванасць нашай літаратурнай мовы.

Праўда, нямала ўжо зроблена па яе ачышчэнні і абагачэнні нашымі пісьменнікамі, у першую чаргу,— Янам Скрыганам і нябожчыкам Кандратам Крапівой, аднак справа гэтая далёка не завершана, ды наогул яна патрабуе пастаяннай і пільнай увагі, бо мова, як і грамадства, не стаіць на адным месцы, яна развіваецца.

Засмечана мова прыблуднымі або проста выдуманымі ці скалечанымі словамі і выразамі накшталт «менавіта», «маўляў», «спадар», «уладкаваўся на працу», «распрануў кашулю», «ён мае рацыю» і іншых недарэчнасцей. Штампы на кожным кроку, асабліва ў газетах і на радыё. Калі прыб'юцца к якому слову, то ўжо не чакай сінонімаў, хоць у жывой мове яны ёсць, ды яшчэ якія дакладныя, выразныя! Тое ж выдуманае «менавіта» можна было б з поспехам замяніць чыста беларускім словам «імення» (яно ж не толькі рускае, але і наша!) або сінонімамі «якраз», «ніхто іншы, як...» і інш. Або ўзяць прыназоўнік «к», які гвалтоўна амаль выжылі з перыёдыкі, замяніўшы стандартным «да», мабыць, толькі за тое, што ён аднолькава гучыць з рускім. Але ж без яго наша мова абысціся не можа, без яго, дарэчы, не абыходзіліся і класікі нашай літаратуры! Як пісаў К. Крапіва, «пірагі можна спячы да свята ды з'есці, а калі хочуць з'есці на самое свята, то і пячы іх трэба к святу».

Адным словам, нашаму Інстытуту мовы ёсць аб чым падумаць, а заканадаўцам, мабыць, варта падказаць ім пра гэта.

Прабачце за турботы.

**М. КУЛАКОЎСКІ,**
ветэран вайны і працы, настаўнік.




Аднойчы мастака папрасілі праілюстраваць фразеалагізмы:



З галавой улезці ў кнігі.



Пасадзіць пад замок.



Камень на сэрцы ляжыць.



Парвацца ад смеху.



Сесці ў галош.



Сядзець на шыі.

Мастак зразумеў выразы літаральна, гэта значыць, у прамым сэнсе.

А як вы растлумачыце сэнс фразеалагізмаў? Падбярыце да іх блізкія па значэнню выразы.

Заданне падрыхтавала Любоў ЛАМЕКА.

## РАЗМОЎНІК ВЕТЛІВАГА ГОСЦЯ

*Для гасцявання ў Францыі*

1. Калі ласка, да стала!
A table, s'il vous plaît!
А табль сіль ву пле!
2. Я хачу есці.
J'ai faim.
Жэ фем.
3. Але я не хачу есці.
Mais je n'ai pas faim.
Мэ жё нэ па фэм.
4. Смачнога!
Bon appétit!
Бон апеті!
5. Я п'ю за ваша здароўе!
За ваша здароўе!
Je bois à votre santé!
A votre santé!
Жё буа а вотр сантэ!
А вотр сантэ!
6. Можна прапанаваць вам кубачак кавы?
Puis-je vous offrir une tasse de café?
Пюіж ву зофрір ун тас дё кафэ?
7. Выпіце са мной шклянку гарбаты!
Voulez-vous prendre une tasse de thé avec moi!
Вуле ву прандр ун тас дё тэ авэк муа!
8. Мы паспеем яшчэ выпіць кубачак кавы.
Nous avons encore le temps de prendre une tasse de café.
Ну завон анкор лё тан дё прандр ун тас дё кафэ.
9. Гэта смачна.
C'est bon.
Сэ бон.
10. Смакуе вам кава?
Le café est-il bon?
Лё кафэ этіль бон?
11. Яна цудоўная.
Il est délicieux.
Іле дэлісіё.
12. Гэтую страву хочацца паўтарыць.
Je voudrais donner sur ce plat.
Жё вудрэ донэ сюр сё пля.
13. Пакаштуйце гэтае піро́жнае.
Goûtez de ce gâteau.
Гутэ дё сё гато.
14. Як вам гэта віно на смак?
Comment trouvez-vous ce vin au goût?
Коман трувэ ву сё вэн о гу?
15. Гэта страва мне не падабаецца.
Je n'aime pas ce plat.
Жё нэм па сё пля.
16. Яда мае горкі (кіслы, салодкі) смак.
Le plat a le gout amer (aigre, doux).
Лё пля а лё гу амэр (эгр, ду).

*Дапытлівым*

## АКАННЕ

Наша мова багатая на словы, якія пачынаюцца літарай а. Яна, паводле БелСЭ, «абазначае гук «а» задняга раду ніжняга пад'ёму». І менавіта гэты гук часцей за іншыя галосныя чуецца з вуснаў людзей нашага краю. «Аканне ўласціва ўсім гаворкам Беларусі, апрача гаворак паўднёвай часткі Брэсцкай і паўднёва-заходняй часткі Гомельскай абласцей»,— сцвярджаюць аўтары «Беларускай дыялекталогіі» (Мн., 1991) спадарыні Еўдакія Мяцельская і Эвеліна Блінова.

Відаць, аканне настолькі магутная ўласцівасць нашай мовы, што нават запазычаныя словы, у тым ліку імёны, беларусы перарабілі на свой капыл: *Аўлас* (Улас), *Адара* (Дар'я), *Аўдоцця* (Еўдакія), *Аваліна* (Эвеліна) ды іншыя. А паводле выказвання Гётэ, «моц мовы праяўляецца не ў тым, што яна не прымае чужога, а ў тым, што яна яго паглынае».

Аканне, яго даўняе існаванне ў нашай мове выразна бачна хоць бы на прыкладзе слова *араць*. Яно падобнае і ў той жа час не падобнае на рускае дыялектнае *орать*, а таксама на ўкраінскае, польскае, чэшскае, славацкае, балгарскае, сербскахарвацкае, славенскае ды і на старaславянскае *орати*, якія (усе!) пачынаюцца літарай *о*.

*(Працяг будзе).*

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—8).*

— Да, мы спяшым,— суха адказаў ён з выразным беларускім акцэнтам.

— Я з інстытута моваэнаўства. Можа б вы згадзіліся даць мне невялічкае інтэрв'ю... Тут у мяне некалькі выказванняў і тры вершы пра беларускую мову,— я выцягнуў з кішэні свае лісткі.— Вы іх пагартайце, калі ласка, і скажыце мне сваё ўражанне.

— Нет, мы спяшым,— зноў сказаў ён, і яны пайшлі.

— Вы, відаць, спяшаецеся? — сказаў я, крыху разгубіўшыся. Хлопец, які якраз у гэты момант падышоў да стала з кактэйлямі, холадна сказаў:

— Да, мы спешим.

— Чаму, я вучылася,— амаль адначасова з ім сказала дзяўчына з другога краю стала, вельмі прыгожая, размаляваная, у міні-спадніцы.

— Пагартайце, калі ласка... Узяла, пагартала...

—Нет, я плохо знаю... Мне трудно читать... — аддала мне тэксты...

— Извините,— сказала мне ўслед тая, што была так непадобная на ўсіх астатніх...

Далей мне, аднак, шанцавала ўжо крыху болей.

Я звярнуў увагу на двух маладых хлапцоў, што пілі праз саломку кактэйлі недалёка ад мяне. Адзін — з даўгімі ільнянымі валасамі, з вусамі, шэравокі. Вельмі ж ужо беларускі тып твару! Другі — вышэйшы, цямнейшы. Вусы яшчэ зусім пуховыя — як у тых, што весяліліся побач са мной. Я падышоў да першага — калі другі адышоў да стойкі ці ў касу...

Той згадзіўся ахвотна... Другі, калі вярнуўся, таксама ахвотна далучыўся да справы...

Яны пачыталі. Папрасілі ручку і паперу і напісалі некалькі слоў. Я сачыў, як яны чыталі: твары адразу зрабіліся вельмі сур'ёзныя... Першы прынёс лісткі да майго століка. Я падзякаваў.

— Ну что вы? Вам спасибо,— сказаў ён. І тут жа, крыху засароміўшыся, дадаў: — Дзякуй...

Вось што яны мне напісалі:

«...Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Вось, як цяпер, перада мною
Ўстае куточак той прыгожы...

Так как я сам музыкант, мне очень нравятся стихи Якуба Коласа. І я, як і ён, люблю сваю Беларусь!!! очень люблю.

В. К. Мінскае музычнае вучылішча ім. Глінкі, 1959 г. рождения».

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі

Крыху збянтэжаны я вярнуўся да свайго століка. У гэты момант за суседні стол села даволі шумлівая кампанія зусім маладзенькіх дзяўчат і хлапцоў (відаць — школьнікаў-старшакласнікаў ці студэнтаў тэхнікума). Некаторыя з дзяўчат былі густа размаляваныя, трымаліся вельмі свабодна. Хлопцы, з лёгкім пушком над верхняй губой, здавалася, былі ўжо даволі «паддаўшымі». Адна дзяўчына, на выгляд — яўна вясковая, рэзка адрознівалася ад астатніх, сядзела збоку і маўчала. Гэта і падштурхнула мяне.

— Дзень добры,— сказаў я, падышоўшы да іхняга століка і злёгку пакланіўшыся спачатку ёй, а потым усім астатнім.

— Здравствуйте,— адказала яна і яшчэ некаторыя з дзяўчат. Хлопцы маўчалі.

— Я з інстытута моваэнаўства. Вы б не згадзіліся даць мне невялічкае інтэрв'ю?..

— А в чём дело?.. Какое интервью?.. — спытала другая дзяўчына. Усе глядзелі на мяне неяк здзіўлена.

— Вось,— я паклаў на стол свае лісткі,— тут некалькі выказванняў і вершаў беларускіх паэтаў... Я запісваю першыя ўражанні людзей аб гэтых тэкстах. Пагартайце, калі ласка, і скажыце, што вы думаеце пра гэта...

— Извините, мы не изучали белорусского языка,— сказала дзяўчына, якая так спадабалася мне з самага пачатку.

*Але!*

# Пад зоркай «Пагоні»

15 лютага ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі Дзяржаўным канцэртным аркестрам Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў Міхаіла Фінберга і Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны была прадстаўлена прэм'ера поп-оперы «Максім» Ігара Паліводы паводле твораў Максіма Багдановіча, лібрэта Лявона Пранчака.

«...Нашы адносіны да Максіма Багдановіча, нашы пачуцці да яго не падлягаюць параўнанню, як не параўнаны яго творчы дар, яго паэтычны геній»,— гэтыя словы народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, змешчаныя ў канцэртнай праграмцы, цалкам выказваюць пачуцці, якія ўзнікаюць, калі слухаеш творы Багдановіча, што ўвайшлі ў поп-оперу. Высока ацэньваючы працу Ігара Паліводы і Лявона Пранчака, я не магу абысціся без заўваг. На маю думку, беларуская поп-опера паводле твораў Максіма Багдановіча нічога не страціла б, калі б была без рускамоўнай песні «Зелёная любовь»: як-ніяк Багдановіч — класік беларускай паэзіі. Рускамоўная песня разбурае цэласнасць поп-оперы, зніжаючы яе нацыянальны пафас.

У фінале прагучала ўсім вядомая «Пагоня», якая апошнім часам з'яўляецца неафіцыйным гімнам беларускага Адраджэння і ўжо традыцыйна спяваецца стоячы ўсімі прысутнымі. На гэты раз усе сядзелі моўчкі — «Пагоня» выконвалася як эстрадная песня, пад якую можна і патанчыць. Да ўсяго, відаць, і Лявону Пранчаку варта было больш папрацаваць над лібрэта, а не абмяжоўваць сваю працу трыма сваімі песнямі, якія выконваліся сярод твораў Максіма Багдановіча. І ўсё ж верыцца, што поп-опера «Максім» набудзе свайго ўдзячнага слухача і зробіць добрую справу ў адраджэнні беларушчыны.

У другім аддзяленні з сімвалічнай назвай «Пад зоркай «Пагоні» прагучалі сучасныя беларускія песні ў выкананні спевакоў: Іны Афанасьевай, Вадзіма Касэнкі, Уладзіміра Кудрына, Алены Саўленайтэ, Юліі Скараход, Мікалая Скорыкава. Вяла канцэрт народная артыстка Рэспублікі Беларусь Зінаіда Бандарэнка.

В. ШНІП.

# Любоў нябёсы над табой трымае



* * * *Люба ТАРАСЮК*

Яшчэ пад зоркай чысціні
Пачуццям невыказна золка,
А ўжо пагаслі ў кveце зёлкі,
Што ратавалі шчасця дні.

Што там варожбы варажых,
Наіў прысушак і адсушак!
Лягчэй бы я любоўю скрушнай
Перасушыла сілу іх.

Цяжэй той свет перамагчы,
Дзе чысціні душы глыбокай
Не ўпершыню так адзінока,
Як промню ў чарнаце начы.

Так непазбыўны час прыйшоў
Цвісці бяздумнасцю мажорнай
Над мутнай хваляю азёрнай,
Над замутнёнаю душой.

І ўсё змяніцца ўслед і ўслых,
Што чысціня — як аднастайнасць...
Але ў святла — святая тайна:
Разліцца ў колерах усіх.

*Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА*

## Нязгода

Зноў з гарнастая каўнер апранулі дамы.
Цені, падцятыя цемрай, упалі на снег.
Любы, давай уцякаць ад халоднай зімы!
Толькі каханне тваё адагрэе мяне.

Дзевяць стагоддзяў гнятуць
на муры і на брук.
Як абручамі сціскаюць, нельга трываць.
Любы, напяты ў наш бок безвыходнасці лук —
цэліцца ў безабароннае сэрца страла.

Змрочныя сцены і змроку каменны парог.
Пасмы святла прасачыліся з нетраў зямлі.
Напластаванні стагоддзяў на плечы ляглі
і не скрануць іх цяжару — лёс перамог.

Але не хочацца ноччу марознай канаць.
Крок са сцяны мураванай — прорва ў нябыт.
Любы, зляві з маладосці гнядога каня!
Хай уратуецца песня з-пад часу капыт.

Смерч наляцеў, але не спаліў наш дом.
Душы спаліліся — і кожны першы памёр.
Дзе тыя коні?
Дзе любы з мячом і шчытом?
Дзе наша доля?
Песню спявае віхор...

*Ніна МАЦЯШ*

## Калыханка маме

Быць разам выпадае нам так мала...
Забудзь трывогу вечную сваю,
Прыляж, мая натомленая мама,
Як некалі ты мне, табе спяю.
Задрэмлюць веі над вачыма карымі —
Не дам упасці й парушынцы я.
Сустрэнься ў сне з сабой, мая ласкавая,
З вясной сваёю, любая мая.

Хоць кропля з абяцанага нам маем
Збываецца праз мулкія гады.
Прыляж, мая даверлівая мама,
Спяю табе, як мне спявала ты.
Задрэмлюць веі над вачыма карымі —
Не дам упасці й парушынцы я.
Сустрэнься ў сне з сабой, мая ласкавая,
З вясной сваёю, любая мая.

Любоў нябёсы над табой трымае,
Любоўю зорацьдні ў тваім акне.
Прыляж, мая усмешлівая мама,
Спяю табе, як ты спявала мне.
Задрэмлюць веі над вачыма карымі —
Не дам упасці й парушынцы я.
Сустрэнься ў сне з сабой, мая ласкавая,
З вясной сваёю, любая мая.

*Чыталі?*

# Татары на зямлі беларускай

Пабачыў свет чацвёрты нумар штоквартальніка Згуртавання татараў-мусульман на Беларусі «Аль-Кітаб» — «Байрам». І хоць невялікі памерам часопіс выдаецца накладам усяго ў 300—400 паасобнікаў, выданне набыло свайго чытача з ліку не толькі свядомых беларускіх татараў, але і гісторыкаў, краязнаўцаў.

Адкрываецца «Байрам» уступным словам, у якім пераказваюцца апошнія важныя падзеі, што адбыліся ў жыцці Беларусі і ў беларуска-татарскім грамадска-культурным руху. Змешчаны ў штоквартальніку і раздзел «Суру Аль-Бакара» — працяг перакладу «Курана» на беларускую мову. Мажліва, у хуткім часе беларускія мусульмане займеюць і асобнае кніжнае выданне «Курана». Адважыўшыся на гэты крок, выдаўцы зробяць дзве добрыя справы. Па-першае, задаволяць патрэбу мусульманскага насельніцтва Рэспублікі Беларусь у святой кнізе. (Адно ў Менску татараў жыве амаль тры тысячы. Буйныя татарскія дыяспары ёсць і ў многіх гарадах Беларусі). Па-другое, далучаць мусульманскае насельніцтва да беларускай мовы.

У «Байраме» друкуецца беларуска-крымскататарскі слоўнік, песні «Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі», «Вальс дажджу» (на беларускай мове).

Абуджае цікавасць у чытачоў урывак з кнігі доктара Яна Станкевіча «Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом», упершыню надрукаванай у Вільні ў 1933 годзе. «Байрам» змяшчае ўрывак, прысвечаны Міраджу (Мірадж — вечар і дзень узнясення прарока Мухамеда на сёмае неба).

Цікавае падарожжа ў свет моўных загадак абяцае артыкул С. Думіна «Імёны і прозвішчы».

Сярод аўтараў чацвёртага нумара «Байрама» — Язэп Янушкевіч, Генадзь Кахаhistoўскі, Мікола Ермаловіч, Ібрагім Канапацкі і іншыя.

На завяршэнне агляду прыгадаем словы песні, якую спяваюць беларускія татары:

Мы з Паволжа і Крыма
з Іманам прыйшлі
На гасцінныя землі Літвы
й Беларусі.
Пад Грунвальдам суровы
экзамен здалі
І уласную службу няслі без
прымусу.

І далей:

Йшлі гады, і нашчадкі татар-
мусульман
Беларускую мову з павагай
прыдбалі,
Але веру ў Алаха, свяшчэнны
Іман
Мы на векі вякоў захавалі.

Клопат аб зберажэнні ўласнай нацыянальнай культуры, павага да мовы і гісторыі народа, з якім пройдзены вялікі гістарычны шлях,— вось галоўны лейтматыў «Байрама», як, між іншым, і ўсяго татарскага грамадска-культурнага руху на Беларусі.

Ганна ЦІТАЎКА.

# Дзе што?

Надзённай тэмай у эстонскім друку стала пытанне забеспячэння харчам вайсковых фарміраванняў былога Савецкага Саюза, размешчаных на тэрыторыі рэспублікі. Яшчэ да новага года Савецкая Армія патрабавала для сябе каля 40 найменняў харчовых тавараў. Эстоніі хапае клопату накарміць свой народ, таму яна адмовілася карміць надалей «акупантаў». Няхай, маўляў, прывозяць цяпер усё неабходнае з Расіі.

(ВІС)

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—8).*

— Цудоўна,— запярэчыў Нікі,— прымусьце чалавека пакінуць адбіткі пальцаў на патрабаванні аб выкупе, а потым усадзіце яму кулю ў лоб і кіньце цела з прывязаным да яго каменем у рэчку. Выдатная ідэя, калі не ўлічваць таго, што першапачатковае пярэчанне застаецца ў сіле: паліцыя не клюнула б на гэта. Калі злачынец задумаў нешта падобнае, ён прымусіў бы сваю ахвяру пакінуць толькі адзін адбітак ці яшчэ лепш — частку адбітка, каб было больш падобна на выпадковасць. Вы зусім правільна сцвярджаеце, што ў гэтай справе ўдзельнічалі двое. Толькі трэба мець на ўвазе адно: гэта было добраахвотнае партнёрства, у якім адзін наўмысна і па сваёй волі пакідае адбіткі сваіх пальцаў. Логіка падказвае, што такое магло здарыцца ў тым выпадку, калі ў аднаго з партнёраў ёсць прычына не вельмі давяраць другому. Напрыклад, калі ён баяўся, што яго саўдзельнік можа выдаць яго паліцыі ці штосьці такое. Цяпер жа ён мог быць упэўнены, што гэтага не здарыцца.

Здаецца, усе мы крыху засмуціліся: Нікі дамогся такой перавагі над намі, што нам нічога не заставалася, як выкінуць белы флаг. Мы пацярпелі скрышальнае паражэнне. Вядома, у нас былі некаторыя пярэчанні, і Джонстан ухапіўся за адно з іх:

— Чаму адзін партнёр павінен быць такім вар'ятам, каб пайсці на гэта?

— Таму што яму нічога не пагражае,— адбіваўся Нікі.— Ён не прафесійны крымінальнік. Адбіткаў яго пальцаў вы не знойдзеце ні ў якім дактыласкапічным бюро.

— Не вельмі пераканаўча,— рашуча запярэчыў Джонстан.— Мы пачынаем пошукі і што-небудзь знаходзім — ну, які-небудзь хоць самы слабы след. І адбіткі, нават і такія, могуць неяк навесці на злачынца. Пакідаць такі «подпіс» вельмі небяспечна.

— Правільна,— спакойна сказаў Нікі,— але ў яго ёсць прычыны быць упэўненым, што выкупная запіска ніколі не трапіць у рукі следчых органаў.

— Адкуль у яго такая ўпэўненасць? — ужо больш агрэсіўна спытаў Джонстан.

— Таму што ён пасылае пісьмо на свой адрас, — адказаў Нікі.

Відаць было, што ніхто з нас не зразумеў усяго значэння здагадкі Нікі Уэлта.

— Дапусцім,— пачаў тлумачыць ён,— чалавеку, у якога ёсць багаты бацька, ці брат, ці вельмі багатая і пяшчотная цётка, дужа спатрэбіліся наяўныя грошы. Напрыклад, ён прайграў у карты ўсё, што меў, альбо жыве занадта шыкоўна пры сваіх сродках. Ці, скажам, яму проста спатрэбілася вялікая сума грошай, якую ён хацеў бы атрымаць беззваротна. Калі б ён паспрабаваў пазычыць іх у свайго багатага сваяка, яму б маглі адмовіць альбо даць з умовай вярнуць у пэўны тэрмін.

Але ён можа пайсці да таго ж сваяка ці сваячкі і сказаць: «Дарагая цётка Агата, Глорыю выкралі злачынцы і патрабуюць за яе пяцьдзесят тысяч долараў. Што рабіць?» Запіска можа трапіць і адразу ў рукі цёткі Агаты, калі яна жыве разам з ім. Безумоўна, яна пакажа яму пісьмо і, зусім верагодна, сама папросіць яго выратаваць пляменніцу.

Як ён усё гэта арганізаваў, спытаеце? Знайшоў, напэўна, якога-небудзь крымінальніка, абдумаў з ім план і абяцаў вялікую долю выкупу за ўдзел у ашуканстве. Магчыма, і сам крымінальнік падказаў яму гэту ідэю. Злачынец, і маю на ўвазе не дробнага злодзея ў світэры і кепцы, а вопытнага гангстэра, захацеў застрахавацца ад небяспечных выпадковасцей — напрыклад, ад таго, каб запіска выпадкова не трапіла ў рукі паліцыі, абмінуўшы яго рэспектабельнага партнёра. І ён патрабаваў, каб той недвухсэнсоўна паказаў, што ён саўдзельнік злачынства. І вось тут сам сабой напрошваецца метад адбіткаў пальцаў, бо рэспектабельны саўдзельнік злачынства пастараецца, каб такая мечаная выкупная запіска не трапіла ў рукі паліцыі.

— А чаму крымінальнік не мог угаварыць яго падпісаць якую-небудзь заяву аб удзеле ў злачынстве? — спытаўся я.

— Гэта была б страшэнная памылка партнёра, — адказаў Нікі.— Да канца дзён сваіх ён мог бы апасацца стаць ахвярай шантажу.

— А хіба ён не можа стаць ёю цяпер?

Нікі кінуў на мяне пакутніцкі позірк:

— Вы забылі, што запіска трапляе толькі ў яго, і нічые іншыя, рукі. Мажліва, ён нават сам заклеіў канверт і кінуў у паштовую скрынку. Пісьмо адрасавана яму самому, альбо яго бацьку, ці багатай цётцы, што жыве ў адным з ім доме. Як толькі ён атрымлівае грошы, ён знішчае запіску.

— А калі цётка Агата ці хто іншы з яго сваякоў сам адчыніць паштовую скрынку і адразу пойдзе ў паліцыю?

— Цётка Агата, напрыклад, гэтага не зробіць, бо Глорыя не яе дачка. Перш-наперш яна пакажа пісьмо бацьку, і той пастараецца не выпусціць яго з рук.

Мы ўсе моўчкі сядзелі ў крэслах, абдумваючы складаную карціну, якая паўстала перад намі з расказу Джонстана і дэдуктыўнага аналізу Нікі Уэлта.

Чым больш я разважаў, тым мацней пераконваўся, што мой сябра мае рацыю. Сапраўды: у адным доме жывуць два браты; старэйшы — Філіп, бедны і хворы, усім абавязаны свайму багатаму брату — і за нагляд, і за дах над галавой; у Філіпа дзіўныя прыяцелі, з якімі ён іншы раз гутарыць праз паркан. Ці не хто-небудзь з іх падаў яму гэту ідэю? Магчыма, ён не разумеў, што вельмі цяжка хворы. З вялікімі грашыма Філіп мог бы вызваліцца ад апекі брата і стаць незалежным. Ці не западозрыў доктар Джон Рыган, што брат яго замешаны ў змове супраць яго? Ці не гэта было прычынай таго, што Джон так неахвотна даваў паказанні паліцыі? Але чаму ж тады Філіп наняў прыватнага дэтэктыва, а не Джон? «Тут нешта не сходзіцца»,— з трывогай падумаў я, і раптам мяне асяніла: доктар — сумленны грамадзянін, член розных камісій, настойваў на тым, каб звярнуцца да паліцыі, нягледзячы на пагрозы ў пісьме, і Філіп не на жарт устрывожыўся і ўгаварыў брата не перадаваць справу ў паліцыю, а звярнуцца да прыватнага дэтэктыва. Пазней доктар, мажліва, пачаў нешта падазраваць, а перад смерцю Філіп мог нават і прызнацца. Цяпер ужо сам доктар не хоча паліцэйскага расследавання — апасаецца, што раскрыецца прыкрая роля брата ва ўсёй гэтай справе.

*Гары КЕМЕЛМАН*

# II. Выкраданне Глорыі

— Тут толькі адна загваздка,— загаварыў раптам Нікі, быццам выказваючы ўголас маю думку: — Хаўруснік, які атрымаў выкупное патрабаванне, не павінен быў перадаваць яго паліцыі. Мяне вельмі цікавіць, як яна апынулася ў вас.

— Тое, што яна трапіла да нас, нічым не падрывае вашай версіі,— мякка прамовіў палагаднелы Джонстан і пераказаў Нікі Уэлту ўсю гісторыю з выкраданнем Глорыі.— Думаю,— заключыў ён,— што гангстэр гэты — Блэкі Венуці.

Нікі згодна кіўнуў галавой:

— Можа, і так. Такі вывад напрошваецца. Глорыю маглі нават увесь час хаваць недзе ў клубе.

— Мы прымусім Венуці загаварыць! — злавесна прамовіў Джонстан.— Шкада толькі, што нельга тое ж самае зрабіць з яго саўдзельнікам.

— Чаму? — наіўна спытаў Нікі.

— Я ўжо казаў вам — Філіп Рыган учора памёр.

— Ці быў забіты,— дадаў Нікі.— Гэта было не вельмі цяжка зрабіць. У яго была сур'ёзная хвароба сэрца. Рэзкага ўдару пад лыжачку, відаць, хапіла б. Калі б і застаўся які знак на целе, яго лагічна вытлумачыць як вынік падзення на нешта цвёрдае ў час сардэчнага прыступу.

— Што вы хочаце гэтым сказаць, прафесар?

Нікі пацiснуў плячамі:

— Жывуць два браты. Адзін добра апранаецца, наведвае начныя клубы, з'яўляецца членам нейкіх там камісій і рознае такое іншае. Другі — чалавек хворы, тупае вакол дома ў халаце і пантофлях, калдыбае па садзе, рэдка калі голіцца. Адразу робіцца вывад, што доктар — брат багаты, а Філіп — брат бедны.— Нікі абвёў позіркам нашу маленькую кампанію, і вочкі яго ўтарапіліся на Экласа з Норфалькскай акругі — высокага кашчавага шасцідзесяцігадовага старога з нібы абцягнутым пергаментам тварам.— Скажыце, калі б у вас быў мільён, — спытаўся ў яго Нікі,— што б вы рабілі?

Экле усміхнуўся:

— Не ведаю... Мусіць, амаль кожны дзень хадзіў бы на рыбалку...

Нікі спагадліва кіўнуў:

— Вось імена. Мне ўяўляецца, што Філіп Рыган меў такое ж жаданне. Грошай у яго было шмат, таму ён мог рабіць, што ў галаву прыйдзе. Хоча — апранаецца лепш, не хоча — нават не паголіцца... Ён мог дазволіць сабе за вялікія грошы ўгаварыць малодшага брата кінуць урачэбную практыку і хадзіць перад ім на задніх лапках. А Джон прывык да матэрыяльнага дабрабыту і дзеля дарагой вопраткі, аўтамашыны, вялікіх кішэнных грошай і ганаровага месца ў грамадстве з ахвотай служыў ледзь не нянькай свайму старэйшаму брату. Не думаю, каб Філіп быў лёгкі кліент. Па-першае, ён чалавек хворы. А па-другое, іншы раз, мабыць, трос нават перад носам Джона сваім завяшчаннем, пагражаючы пакінуць яго без цэнта. Таму доктар азартна рэзаўся ў карты, спадзеючыся сарваць вялікі банк і дабіцца некаторай незалежнасці ад брата, але прайграўся.

— Аднак нам вядома, што Джон — гэта той з братоў, каму належаць грошы,— цвёрда прамовіў Джонстан.— У яго ў Бостане вялікая маёмасць. Уся запісана на яго імя. Мы праверылі. Яго імя значыцца ў рэестры правадзейных асоб — уладальнікаў нерухомай маёмасці. Яна ацэнена ў два мільёны долараў.

— Не сумняваюся,— пагадзіўся Нікі.— Але даю галаву на адрэз, што недзе, можа, і ў самім доме, у патаемным сталёвым сейфе Філіп хаваў перадатачныя акты на кожны артыкул уласнасці, якая паводле рэестра нібыта належыць Джону. Нашы законы аб нерухомай маёмасці безнадзейна ўстарэлі, і таму па шэрагу прычын іншы раз бывае вельмі неабходна запісаць маёмасць на імя падстаўной асобы. Менавіта такім чалавекам і быў, пэўна, Джон Рыган у дзелавых аперацыях свайго старэйшага брата Філіпа. Як вам вядома, містэр Джонстан, першае, што патрабуецца ад падстаўной юрыдычнай асобы,— не мець уласных свабодных актываў. Калі толькі вы не прымусіце доктара ва ўсім прызнацца, вы, магчыма, ніколі не даведаецеся праўды, але вы можаце зрабіць вельмі блізкую да ісціны здагадку: за сталамі для гульні Венуці Джон прайграў вельмі вялікую суму грошай. Ці падганяў яго Венуці аддаць доўг? Ці сам падказаў яму гэты план з выкраданнем сваёй дачкі? Не ведаю,— Нікі пацiснуў плячамі.— Але гэта не вельмі важна. Патрабаванне аб выкупе было складзена, і на другі дзень Філіп Рыган атрымаў яго па пошце. Павінен быў, магчыма, атрымаць яго Джон, але выйшла так, што Філіп. Глорыя — дачка Джона, і Філіпу яна толькі пляменніца, таму ён не мог паклікаць паліцыю наперакор волі Джона, аднак дамогся яго згоды звярнуцца да прыватнага дэтэктыва. Магчыма, Філіп нешта западозрыў. Можа, нават аб усім здагадаўся. Як бы там ні было, ён зрабіў памылку, што сказаў Джону пра свае падазрэнні, а мажліва, і пра тое, што мае намер перадаць справу ў паліцыю.

— Але чаму ўсё не можа быць якраз наадварот, Нікі? — не вытрымаў я.— Чаму Філіп не мог быць бедным братам, які пайшоў на злачынства? Чаму ўсё не можа быць такім, як яно ёсць: Джон — багацей, а Філіп бядняк? Чаму не мог Джон захацець пайсці ў паліцыю, а Філіп адгаварыць яго? Чаму нежаданне Джона памагчы паліцыі расследаваць гэтую справу не магло вынікаць з таго, што ён даведаўся аб саўдзеле роднага брата ў выкраданні Глорыі?

Кплівая ўсмешка Нікі Уэлта прымусіла мяне праглынуць яшчэ і іншыя пытанні і змоўкнуць.

— Таму,— адказаў Нікі,— што менавіта Філіп выклікаў дэтэктыва і перадаў яму патрабаванне аб выкупе. Калі б ён быў саўдзельнікам злачынства, ён бы ніколі не выпусціў гэты яўны доказ злачынства, прынамсі, не сцёршы перш адбіткаў сваіх пальцаў.

На нейкі момант запанавала мёртвая цішыня. Нарэшце, Джонстан выказаў услых агульную думку:

— Гучыць важка і пераканаўча, прафесар, але як мы ўсё гэта дакажам?

— У вас могуць узнікнуць некаторыя цяжкасці з забойствам,— адказаў Нікі.— А з выкраданнем справа лягчэйшая. Паверaныя Філіпа Рыгана, безумоўна, ведаюць сапраўднага ўладальніка нерухомай маёмасці, якая прыпісана Джону Рыгану. У банку вам, я ўпэўнены, пакажуць рахунак, з якога былі зняты пяцьдзесят тысяч долараў. Доктару Джону давядзецца растлумачыць, чаму на выкупной запісцы выяўлены адбіткі яго пальцаў. Венуці сам загаворыць, калі ўбачыць, што змова выкрыта і яго могуць абвінаваціць у саўдзеле ў забойстве.— Нікі крыху памаўчаў, потым закончыў: — А ўжо адсюль пачынаецца звычайная паліцэйская завядзёнка, якая прадугледжвае адшуканне і перадачу суду неабходных юрыдычных доказаў.

Нікі недаўменна ўтаропіўся на твары прысутных, калі ўсе мы раптам гучна зарагаталі,— нават Джонстан.

З англійскай мовы пераклаў Сямён ДОРСКІ.

# МАЙСТРЫ



Міхаіл Андрэевіч Савіцкі — імя гэтага мастака добра вядома не толькі ў Беларусі. Больш за трыццаць гадоў кожнае новае яго палатно выклікае вострую палеміку спецыялістаў, не пакідае раўнадушнымі тых, хто прыходзіць на вернісажы.

Абараняючы краіну пад Севастопалем і Херсонам, пераносячы пякельныя пакуты фашысцкіх канцлагераў смерці Бухенвальда і Дахаў, ішоў Міхаіл Савіцкі да філасофіі вайны і міру, якімі прасякнуты трынаццаць палотнаў гэтай серыі. Яны не толькі выкрываюць фашызм. Яны сцвярджаюць высокія маральныя ідэалы дабра і гуманізму.

«Чорны боль» — залатым медалём Акадэміі мастацтваў краіны адзначана гэта серыя работ М. Савіцкага. Да нашай памяці, да сумлення жывых звернуты і новы твор мастака — «Курапаты».

НА ЗДЫМКУ: народны мастак Міхаіл Савіцкі ў сваёй майстэрні.

Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.

# Народная лякарня

*ЛЯЧЭННЕ ПЧАЛІНЫМ МЕДАМ, ЯДАМ, ПРОПАЛІСАМ*

## Мёд на працягу вякоў. Уласцівасці мёду

Здаўна людзі лічылі мёд панацэяй — універсальным сродкам ад усіх хвароб. Многім рэцэптам, у склад якіх уваходзіць мёд, тысячы гадоў. Пчалярства развівалася ў Егіпце, Грэцыі, Рымскай імперыі, асабліва з узнікненнем хрысціянства, калі з'явілася патрэба ў пчаліным воску для рэлігійных мэт. Пчалярства было любімым заняткам старажытных славян. Яшчэ ў V стагоддзі гісторык Герадот піша пра пчалярства ў мясцовасці, у якой пазней пачалі жыць славяне. На зямлі сучаснай Беларусі было пашырана бортніцтва — промысел, заснаваны на развядзенні і ўтрыманні лясных пчол. Мёд выкарыстоўваўся нашымі продкамі для атрымання напіткаў, у ежу і з лекавымі мэтамі. Славяне лячылі мёдам раны, скулы, страўнікава-кішачныя хваробы, экземы.

У егіпецкай «Кнізе аб прыгатаванні лякарстваў для ўсіх частак цела», напісанай 3,5 тысячы гадоў назад, даюцца парады, як лячыць мёдам хваробы страўніка, нырак, вачэй, а таксама выкарыстоўваць яго ў касметычных і лекавых мазях, пластырах, прыпарках, павязках.

У самай старажытнай кітайскай кнізе «Апісанне раслін і траваў бога ўрадлівасці» гаворыцца: «Мёд вылечвае ўнутраныя органы, паніжае гарачку... Працяглае яго ўжыванне загартоўвае волю, надае целу лёгкасць, захоўвае маладосць, падоўжвае жыццё».

Старая індыйская медыцынская «Кніга жыцця» сцвярджае, што падоўжыць жыццё чалавека можна толькі эліксірам і дыетай, у якую ўваходзяць малако і мёд. Вядомае індыйскае лякарства «алтэранцыя», якое захоўвае маладосць і прыносіць чалавеку задавальненне, утрымлівае ў сабе, галоўным чынам, мёд. У свяшчэннай кнізе «Напітак несмяротнасці» гаворыцца, што мёд умацоўвае і амалоджвае арганізм чалавека падобна грэчаскай амброзіі. Мёд індыйцы ўжывалі як антыдот — сродак супраць атруты мінеральнымі, раслліннымі і жывёльнымі ядамі.

## Нядзельная школа для скаўтаў

Яшчэ адна нядзельная школка пачала працаваць у Менску. Яе арганізатар — гарадскі бацькоўскі камітэт. Заняткі па хрысціянству на беларускай мове праводзяць уніяцкія святары: дыяканы Андрусь і Зміцер, айцец Ян. А першы ўрок Божай міласэрнасці яшчэ на зімовых вакацыях даў Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў айцец Аляксандр Надсан, які ў чарговы раз наведаў шматпакутную Беларусь, прывёзшы лекі ды іншыя медычныя сродкі для дзяцей Чарнобыля. Свае падарункі атрымалі і дзеці нядзельнай школкі — «Кароткі катэхізм хрысціянскай навукі» (1990), аўтарам якога з'яўляецца шаноўны госць. Ён жа паабяцаў прыслаць Біблію для дзяцей на роднай мове, якая ўжо выдадзена за мяжой.

Шэсцьдзесят хлопчыкаў і дзяўчынак (амаль усе яны мараць стаць беларускімі скаўтамі) запісаліся ў школку, класныя пакоі для якой любоўна адвяла беларуская гімназія № 199. На ўроках дзеці будуць вучыць пачаткі хрысціянскай навукі, а таксама займацца маляваннем, спевамі, ігрой на струнных музычных інструментах. Знайшлася справа і бацькам. Яны слухаюць цікавыя лекцыі вядомых дзеячаў навукі і культуры.

Няхай асвятляе шлях нашым дзецям «Малітва перад навукаю», з якой звярнуўся да іх айцец Аляксандр: «У імя Айца, і Сына, і Святога Духа. Магутны Божа! Пашлі нам ласку Духа Твайго Святога, каторы дае і мацуе нашы душэўныя сілы, каб мы ўважна слухалі выкладаныя нам навукі і раслі Табе, Творцы нашаму, на славу, нашым бацькам і настаўнікам на радасць, царкве і Бацькаўшчыне нашай на дабро і чэсць. Амінь».

Алесь ЛОЗКА.

### *АХВЯРАВАННІ НА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ*

1. Сіняўскі С. М. (г. Перм) — 12 руб.
2. Суполка ТБМ Быценскай СШ — 56 руб.
3. Жарская І. І. (г. Менск) — 25 руб.
4. Станкевіч С. С. (г. Менск) — 10 руб.
5. Суполка РМТС (г. Менск) — 25 руб.
6. Айцец Ян Матусевіч (г. Менск) — 100 руб.

*ПЫТАННЕ — АДКАЗ*

## Вешанкі звычайныя

***Паважаная рэдакцыя! Звяртаецца да вас старшыня Іванаўскага мастацка-вытворчага кааператыва «Спектр» Брэсцкай вобласці Уладзімір Платоненкаў. У мяне такая просьба. Нашаму кааператыву вельмі цяжка здабываць матэрыялы, таму мы хацелі б асвоіць яшчэ адзін від вытворчасці — вырошчванне грыбоў вешанак. Вядомы іх карысныя якасці. Нам хацелася б таксама даведацца, дзе можна дастаць споры (міцэлій) гэтых грыбоў, як іх размнажаць — карацей, усю тэхналогію іх вырошчвання.***

***Наперад дзякуем. Члены кааператыва.***

Было гэта мінулай восенню. З сумным настроем, што зноў не хапіла часу схадзіць у лес па грыбы, ехала на дачу. Прыязджаю, і што ж — на сваім участку збіраю кошык крамяных тоўстых грыбоў, падобных на грузды. Узышлі мае вешанкі.

Дзе ўзяла грыбніцу? Год назад купіла ў Ленінскім доследным лясгасе за 20 км ад Гомеля. Самы час паклапаціцца пра грыбніцу, калі хочаце збіраць грыбы ва ўласным садзе. Прадаюць яе ў сакавіку — красавіку.

Вясной знайдзіце паваленае сырое дрэва — вольху, бярозу, а найлепш асіну. Разрэжце яго на кавалкі — пацурбалкі даўжынёй 30—40 см. Выкапайце ямкі, насыпце ў кожную крыху грыбніцы вешанак і пастаўце ў іх пянькі-пацурбалкі, прысыпце зямлёй так, каб палавіна пянька была на паверхні.

Увосень з'явяцца на пяньках грыбы. А ў наступны год іх будзе яшчэ больш. Вешанкі можна вырошчваць у падвале на льняной кастрыцы, на пілавінні, прапаранай саломе... Пянькі трэба паліваць два-тры разы на тыдзень, а калі сухое лета, то і часцей. Патрэбен умераны цень і сонца, вільгаць у паветры.

Ёсць праблема з грыбніцай — дзе яе браць. Цяпер кааператары заняліся вырошчваннем вешанак, бо справа выгадная. Многія садаводы-аматары прыахвоціліся да гэтай справы: гатовыя пянькі, ужо «заражаныя» грыбніцай вешанак, прадаюць на Камароўскім рынку ў Менску.

З. МАЛАШЭВІЧ.

**АД РЭДАКЦЫІ: Да нататкі грыбавода-аматара можна дадаць, што нядаўна ў газеце «Вячэрні Мінск» расказвалася пра вырошчванне вешанак у Беларускім тэхналагічным інстытуце. Тут вучоныя пераканаліся ў перавагах іх штучнага вырошчвання ў параўнанні, скажам, з размнажэннем грыбніцы на адкрытым грунце. У тым жа нумары газеты была змешчана аб'ява: «Беларускі тэхналагічны інстытут і НВП «БелЭКО» аб'яўляюць набор на курсы грыбаводаў — па вырошчванню ядомых грыбоў на прысядзібных участках, па прамысловаму вырошчванню вешанак. Даведкі па тэлефоне 27-57-13. Звярніце ўвагу і на аб'яву часопіса «Приусадебное хозяйство» (№ 1, 1992) пра зерневы міцэлій грыба вешанкі ў пакетах.**

*І смех і грэх*

## Дыялогі на вясковай лаўцы

— Ну і жыццё пайшло! Адны некія пературбацыі! Ні свята, ні будняга дня нармальнага. Трасе народ, як у ліхаманцы. Недавернешся — б'юць, паравернешся — б'юць...

— А ты, Аленка, па-другому падумай, лягчэй стане: на свеце, як у карэце: едзеш і калышашся.

* * *

— Гэта ж якое дзіва! Не паспеў мой хлопец на развод падаць, як усё сяло ведае. Да чаго ўжо ў некаторых бабаў языкі: як не брахне, дык не дыхне.

— Ніякага, Стася, дзіва! Спакон веку так было. Хочаш знаць, што дома робіцца,— у людзей папытайся.

Учула Любоў ЛАМЕКА.

### *Да ўвагі замежных падпісчыкаў*

**Вырашана пытанне з падпіскай на газету «Наша слова» ў Паўночнай Амерыцы. Усе, хто жадае падпісацца, могуць зрабіць гэта праз рэдакцыю часопіса «Полацак» у Клiўлендзе. Кошт падпіскі на 1992 год — 24 долары ЗША. Можна атрымаць усе нумары за 1992 год, пачынаючы з першага.**


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін.

Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».

Наклад 7340 паасобнікаў. Зак. 1167. Індэкс 63865.